УРАЖАННІ Яўгена ЛЕЦКІ «МНОГІЯ ЛЕТЫ» ЮБІЛЯРЦЫ СПАДАРЫНІ ВАЛЯНЦІНЕ
Стар. 6.

БЕЛАРУСЬ—ЛІТВА
АГУЛЬНАЯ МІНУЎШЧЫНА ПАТРАБУЕ ПАШАНЫ
Стар. 7.



НАВІНЫ СТАЛІЦЫ
НАРЭШЦЕ АДЧЫНІЎ СВАЕ ДЗВЕРЫ ПАЛАЦ РЭСПУБЛІКІ Ў МІНСКУ

ЦІ БУДЗЕ КАМУ ПРАЦАВАЦЬ НА ЗЯМЛІ? ЭКАНАМІЧНЫЯ НАТАТКІ
Стар. 2.



ПРЭЗЕНТАЦЫЯ
З'ЯВІЛАСЯ НОВАЕ МАСТАЦКАЕ АБ'ЯДНАННЕ
Стар. 7.

ДА 155-х УГОДКАЎ ДЗЕДА ТАЛАША
Стар. 4.

СКАРЫНАЗНАЎСТВА
ПЕРШАДРУКАР АДКРЫЎ БЕЛАРУСЬ СВЕТУ
Стар. 4—5.



АГУЛЬНАЯ БЕЛАРУСКАЯ ГАЗЕТА | РАСПАЎСЮДЖВАЕЦЦА Ў 48 КРАІНАХ

# Голас Радзімы

22 снежня 1999 года
Цана 40 000 рублёў

№ 51 (2661)

Штотыднёвая газета для суайчыннікаў за межамі Беларусі
Выдаецца з 1955 г.

## НА МЯЖЫ СТАГОДДЗЯЎ



**Сёлета Нацыянальны мастацкі музей Беларусі адзначыў сваё 60-годдзе. Святкаванне прайшло, па словах Уладзіміра Пракапцова, дырэктара ўстановы, па-дзелавому. Хаця віншаванні таксама прымаліся, і было іх, шчырых і прыязных, шмат: у тэатры імя Янкі Купалы прайшоў урачысты вечар, дзе сабраліся вельмі цікавыя госці. Але галоўнай падзеяй, мяркуе Уладзімір Іванавіч, стала міжнародная навукова-практычная канферэнцыя, што доўжылася тры дні. Тэма форуму — "Мастацкія музеі на мяжы тысячагоддзяў: праблемы і перспектывы развіцця".**

*(Інтэрв'ю з Уладзімірам ПРАКАПЦОВЫМ змешчана на стар. 3).*

## ЗВАРОТНАЯ СУВЯЗЬ

Мае шаноўныя! Колькі гадоў праляцела! Мы шмат пражылі. Жадаю вам шчаслівага тысячагоддзя і стагоддзя. Раcказвайце ўнукам, што адбылося на нашым вяку.

Віншую ўсіх з Нараджэннем Хрыстовым! Зычу, каб заўсёды былі радасць, шчасце і любоў, абыходзілі вас смутак і хваробы.

Шчаслівага Новага, 2000 года!

З прывітаннем

**Лідзія ПІНЧУК.**

Іспанія.

Дарагія мае!

Заўсёды радуюся, калі прыходзіць новы нумар газеты. Але асабліва ўзрадаваў № 44. Чытаю і нібыта знаходжуся ў маёй роднай Беларусі.

Спадзяюся, што ў новым, 2000 годзе жыццё стане лепшым. Жадаю вам гэтага ад усяго сэрца.

Усяго добрага. Яшчэ раз дзякуй.

**Ваша Леанарда МАЛЕЕВА.**

Італія.

Шаноўнае спадарства ў Беларусі, а гэтаксама ў краінах далёкага і блізкага замежжа!

Віншуем з Калядамі каталіцкімі ды праваслаўнымі і надыходам Новага, 2000 года!

Жадаем усім моцнага здароўя, шчасця ў асабістым ды сямейным жыцці, поспехаў ва ўсіх справах! Карыстаемся нагодай, каб выказаць шчырыя словы падзякі заснавальнікам і выдаўцам штотыднёвіка "Голас Радзімы" за цікавую і патрэбную беларусам замежжа газету!

**Гурт беларускай культуры "Зорка Венера".**

Украіна, г. Ізяслаў.

## СУСТРАКАЕМ 2000-ны

**Віншуем: падзея, пра якую так шмат ішло гаворкі ўвесь апошні час — 2000-ны год, ужо зусім побач, на адлегласці выцягнутай рукі — яшчэ крышачку, і мы да яго дакранемся, а потым і пераступім той парог, што падзяляе нават не стагоддзі, а цэлыя тысячагоддзі.**

**Як жа пачуваецца нам у такіх незвычайных абставінах, што за думкі прыходзяць у сувязі з гэтым? Распавядаць на азначаную тэму можна шмат. Але мы падрыхтавалі толькі тры невялікія пытанні і папрасілі нашых субяседнікаў адказаць на іх вельмі коратка. Пачатак размовы ў гэтым нумары, заканчэнне ў наступных выпусках "Голасу Радзімы".**

**Запрашаем і вас, шаноўныя чытачы, даць свае адказы на пытанні.**

*1. Якая падзея, на вашу думку, аказала найбольш моцны ўплыў на гісторыю Беларусі ў XX стагоддзі?*

*2. Што б з гэтага стагоддзя вы ўзялі ў наступнае і што пакінулі б у мінулым?*

*3. 2000-ны — апошні год XX стагоддзя. Што б вы хацелі паспець зрабіць за гэты час?*

## СПОРТ

У Мінску стартаваў чэмпіянат свету па хакею з шайбай сярод юніёраў да 20 гадоў у групе "Б". У ім прымаюць удзел хакеісты з 8 краін.

Першую сустрэчу Нацыянальная зборная Беларусі правяла з камандай Латвіі. І атрымала перамогу з лікам 3:1. Для таго каб беларускія хакеісты выйшлі ў групу "А", на гэтым чэмпіянаце неабходна заняць толькі першае месца.



Гуляюць юніёры Беларусі і Латвіі. Фота БелТА.

## КАЛЯДЫ



БелТА.

### НА ПЕРШЫ ДЗЕНЬ, ДА НА РАЖСТВО

Ішоў гаспадар да касцёла,
Стрэў жа вун да тры ангелы:
Адзін ангел — ясна сонелка,
Другі ангел — ясны месячык,
Трэці ангел — дробны дождждык.
— А што ж ты рэчэш, ясна сонелка!
— Ой, як я ўзыду ў нядзелю раненька,
Зрадуецца стары і малы,
Да касцёла ідучы, свечай Бога хвалючы.
— Ой, што ж ты рэчэш, ясны месячык!
— Ой, як я ўзыду ў цёмнай ночы,
Зрадуецца купец у дарозе,
Валы ў абозе.
— Ой, што ж ты рэчэш, дробны дождждык!
— Ой, як я ўзыду тры разы ў маі,
Зародзіць Бог жыта, пшаніцу,
Накладзем стожкі
На штыры рожкі,
Накладзем пшаніцы
На паланіцы,
Накладзем аўса,
Да каляда ўся.

8 стар.

**НАВІНЫ СТАЛІЦЫ**





# СЁЛЕТА Ў МІНСКУ ПАЛАЦАЎ ПАБОЛЬШАЛА

***У апошні час ужо мала хто звяртаў увагу на Палац рэспублікі, што ўзводзіўся ў самым цэнтры Мінска. За 13 гадоў, на працягу якіх ідзе будоўля, паспелі вырасці дзеці і ён стаў у сваім няскончаным выглядзе звыклай часткай Мінска. І раптам усе пачулі: адкрыта Малая зала палаца. Няўжо пабудавалі? Не да канца. Але тое, што працуе, вартае ўвагі. Тым больш, кожны з нас укладвае ў гэтую справу грошы, бо фінансуецца палац з дзяржбюджэту (адносіцца да Міністэрства культуры).***

***Прапануем гутарку нашага карэспандэнта з чалавекам, які займаецца палацам пяць гадоў, — яго дырэктарам Аляксандрам КАЗАКОМ.***

*— У чым адметнасць Палаца рэспублікі?*

— Па-першае, пры будаўніцтве выкарыстоўваліся высакаякасныя матэрыялы. Выкананыя работы адпавядаюць еўрапейскаму ўзроўню. Улічваючы маштабы (Вялікая зала разлічана на 2 700 месцаў, Малая — на 500, канферэнц-залы — на 200 і 100 месцаў, прэс-цэнтр), можна гаварыць пра шматфункцыянальнасць палаца. У гэтым яго унікальнасць. Такіх аб'ектаў на тэрыторыі СНД — адзінкі, на Беларусі няма ўвогуле.

*— Якое галоўнае прызначэнне палаца?*

— Гэта гастрольна-канцэртная ўстанова. Таму адразу хачу развеяць міф, нібыта палац пабудаваны для ўрадавых пасяджэнняў. Тут, зразумела, можна праводзіць грамадска-палітычныя мерапрыемствы, міжнародныя кангрэсы (дазваляе абсталяванне сцэны, спецыяльныя фуры прэзідыума, сістэма перакладу на 5 моў у Вялікай і Малой залах).

Але галоўнае прызначэнне — канцэрты, сімфанічныя ў тым ліку, спектаклі (оперныя, у прыватнасці), выставы. Умовы тут выдатныя.

*— Раскажыце, калі ласка, падрабязней пра іх.*

— У кожнай зале ёсць электраакустыка, падгучка. Пастановачныя магчымасці Вялікай залы павялічвае выкананае аўстрыйскімі спецыялістамі абсталяванне ніжняй механізацыі сцэны. Яна не эстраднага тыпу, як у большасці канцэртных залаў, а каласніковая — мае ў верхняй частцы прыстасаванні для мацавання і спуску дэкарацый. Гэта значыць, што мы можам прыняць у сябе тэатр, аркестр з любой складанасцю дэкарацый.

*— Хто займаецца запрашэннем артыстаў? Ці існуе тут нейкая палітыка?*

— Займаюцца нашы супрацоўнікі. Мы адразу выключаем са спісу прэтэндэнтаў нізкапрафесійныя калектывы. Палац рэспублікі — толькі для выканаўцаў высокага ўзроўню. У нас выступаў славуты грузінскі спявак Вахтанг Кікабідзе, прыязджаў Дзіцячы музычны тэатр Наталлі Сац.

*— Што вы можаце сказаць пра Міжнародны прэс-цэнтр?*

— Абсталяваны камп'ютэрамі, ёсць выхад у Інтэрнет.

*— Наколькі дэмакратычным будзе Палац рэспублікі?*

— Ён адкрыты для ўсіх. Адзін з комплексаў з канферэнц-залай прызначаны для наведвання палаца інвалідамі на калясках. Тэатр Наталлі Сац бясплатна сыграў два спектаклі для дзяцей з дамоў-інтэрнатаў.

*— Што рэальна сёння функцыяніруе ў Палацы рэспублікі?*

— Малая зала, бар, кафэ.

*— Вы здаяце ў арэнду памяшканні Беларускаму патрыятычнаму саюзу моладзі, радыё "Стыль", турагенцтву і г. д.*

— Гэта часовая з'ява. Арандатары месцяцца ў артыстычных і адміністрацыйных памяшканнях Вялікай залы. Пакуль жа гэта сродак неяк падтрымаць наша фінансавае становішча.

*— Калі Палац рэспублікі адчыніць усе свае залы?*

— Па плану работы павінны быць завершаны ў ліпені 2000 года.

*— Ці зменіцца знешні выгляд Кастрычніцкай плошчы?*

— Гэтым займаецца Камітэт па архітэктуры. Магу сказаць, што на ёй з'явяцца летнія кафэ, іншыя архітэктурна-дэкаратыўныя элементы.

*— Як у палацы збіраюцца адзначаць Новы год?*

— Другі раз да нас прыязджае Тэатр Наталлі Сац. Пакажам цікавую Навагоднюю праграму, падрыхтаваную санкт-пецярбургскімі артыстамі, адбудзецца сем прадстаўленняў. У нас ёсць добрая пляцоўка пад Навагоднюю ёлку, але, на жаль, сёлета прыйдзецца паставіць лясную прыгажуню ў фае: пакуль ідзе будоўля.



*— Ці можна назваць прыкладны кошт будаўніцтва палаца?*

— Гэта складана: змянілася столькі курсаў валюты.

*— А калі будаўніцтва акупіцца?*

— Яно акупіцца ўжо тым, што нашы людзі стануць духоўна багацейшымі.

*— Ці вялікі сёння штат Палаца рэспублікі?*

— 227 чалавек (без уліку персаналу кафэ, рэстарана, бара).

*— У палацы шмат добрай мэблі, прыгожых люстраў, іншых аздабленняў. Прывезлі з-за мяжы?*

— Не. Карыстаемся прадукцыяй айчынных вытворцаў.

*— Мабыць, на Беларусі яшчэ не было такога дайгабуда?*

— Не было, у першую чаргу, аб'ектаў такога маштабу.

*— Няцяжка здагадацца, што вы ганарыцеся Палацам рэспублікі.*

— Так. І катэгарычна не прымаю неабгрунтаваных нападак на яго. Трэба прыйсці сюды, каб на свае вочы пераканацца, як прафесійна ён пабудаваны, якія мае выгоды. З часам Мінск абавязкова будзе ганарыцца сваім галоўным палацам.

**Алена СПАСЮК.**



**НА ЗДЫМКАХ: Малая зала; дырэктар А. КАЗАК; фае; рэстаран.**

**Фота Віктара СТАВЕРА.**

**НАТАТКІ З НАГОДЫ**

# ЦІ БУДЗЕ КАМУ ПРАЦАВАЦЬ НА ЗЯМЛІ?

***За апошнія 25 гадоў толькі ў Віцебскай вобласці колькасць вясковых паселішчаў зменшылася на чвэрць. У Шаркоўшчынскім, Расонскім, Лепельскім, Глыбоцкім і шэрагу іншых раёнаў "адмерлі" ад 30 да 40 працэнтаў вёсак. Асабліва моцна тэндэнцыя заняпаду вёскі вызначылася ў апошнія гады. Гэтыя несуцяшальныя факты прывёў віцэ-прэм'ер беларускага ўрада Аляксандр Папкоў падчас выступлення ў Нацыянальным сходзе, дзе адбываліся парламенцкія слуханні па тэме "Стан, праблемы і перспектывы забеспячэння сельскай гаспадаркі працоўнымі рэсурсамі".***

● **Юрый ДОМНІЧ.**

Дэпутаты пасля яго выступлення адзначалі, што, прызначаючы слуханні, нават не ўяўлялі, што сітуацыя ў сельскай гаспадарцы катастрафічная. Стан парламентарыяў быў блізкім да шокавага. Ім прыйшлося прызнаць, што калі дэмаграфічнае становішча на вёсцы і адносіны дзяржавы да селяніна не зменяцца, то хутка ўвогуле не будзе каму працаваць на зямлі.

Ужо сёння сельская гаспадарка Беларусі адчувае востры дэфіцыт кіруючых кадраў, праблемы з узроўнем адукацыі вядучых спецыялістаў. Напрыклад, трэцюю частку пасад вядучых спецыялістаў займаюць людзі з сярэдняй адукацыяй. Для правядзення масавых палявых работ гаспадаркам краіны не хапае 10 тысяч механізатараў, што складае 20 працэнтаў ад неабходнага. Гаспадаркам патрэбна 3 000 аператараў машыннага даення.

Такое становішча мае пад сабой глебу. За апошнія дзесяць гадоў колькасць працаўнікоў, занятых у аграпрамысловым комплексе, зменшылася з 1 мільёна 67 тысяч да 656 тысяч. Кажучы проста, менавіта гэтыя крыху больш за паўмільёна сялян ды яшчэ пенсіянеры, якія застаюцца ў вёсках, кормяць дзесяцімільённую Беларусь ды яшчэ дазваляюць тое-сёе з прадуктаў адпраўляць на экспарт. Калі ж скарачэнне насельніцтва на вёсцы будзе і далей ісці такімі тэмпамі, то неўзабаве карміць нас не будзе каму.

Урад, па словах А. Папкова, адсочвае гэтыя небяспечныя тэндэнцыі і ўсведамляе прычыны, па якіх моладзь імкліва пакідае вёску, аднак змяніць становішча не ўдаецца. Галоўныя прычыны, якія прывялі да крызісу ў аграпрамысловым комплексе, — цяжкая ручная праца, крайне нізкія заробкі і сацыяльная неўладкаванасць на вёсцы.

За тры кварталы гэтага года сярэдняя зарплата ў сельскай гаспадарцы склала толькі 9,3 мільёна рублёў. У той жа час у сярэднім па краіне заробкі былі роўныя 16 мільёнам, а ў прамысловасці атрымлівалі ў сярэднім 20 мільёнаў рублёў. Больш таго, нават гэтая мізэрная зарплата выдаецца вяскоўцам несвоечасова. Ад усяе запазычанасці па заработнай плаце амаль 90 працэнтаў прыпадае якраз на калгасы. Калі ж улічыць памер пражытачнага мінімуму, то становіцца відавочным, што селяніну немагчыма выжыць нават у вёсцы. Прысядзібная гаспадарка, якая дазваляе мець нейкі дадатковы прыбытак, кладзецца вялікім грузам на плечы вяскоўцаў і, па сутнасці, з'яўляецца іх другой працоўнай зменай. У гэтых умовах не выклікае здзіўлення рост крадзяжоў на вёсцы: не маючы законных умоў зарабіць грошы, людзі, даведзеныя да адчаю, ідуць на злачынствы.

Стан сацыяльна-культурнага і бытавога забеспячэння вёскі таксама не можа задавальняць. Паводле слоў А. Папкова, медыцынскім персаналам вёска ўкамплектавана толькі на 84 працэнты. А яшчэ цяжэй тое, што палова бальнічных і амбулаторных устаноў не адпавядае санітарна-тэхнічным нормам. Рэзка скарацілася за апошнія гады колькасць устаноў культуры і бытавога абслугоўвання.

Дэпутаты, сярод якіх таксама нямала кіраўнікоў сельскіх гаспадарак, кожны дзень сутыкаюцца з тым, што амаль ці не адзінай "забаўкай" для вясковага жыхара стала гарэлка. А гэта крок не толькі да дэградацыі, але і да фізічнага вынішчэння.

Як ужо было сказана, А. Папкоў паведаміў, што ўрад ведае праблемы вёскі. Прынамсі, пра гэта сведчыць і яго даклад. Аднак дзяржава не можа змяніць такое становішча спраў. Зразумела, што праца калгасніка і фермера патрабуе адэкватнай аплаты, але дзяржава не можа пайсці на ўсталяванне адпаведнай цаны на сельскагаспадарчую прадукцыю, баючыся, што гэта прывядзе да імклівага росту цэн на прадукты харчавання. А гэта ўжо прымусіць шукаць дадатковыя сродкі на кампенсацыю насельніцтву страт ад росту цэн і пагражае сацыяльнай нестабільнасцю ў горадзе. Што бывае, калі на вуліцы выходзяць рабочыя, мы ведаем па пачатку 90-х гадоў... Такім чынам, як прызнаўся А. Папкоў, дзяржаве выгадней выдаваць вёсцы шматмільённыя крэдыты (якія часта не вяртаюцца), чым пайсці на лібералізацыю закупачных цэн. Але вяскоўцам ад гэтага, здаецца, не лягчэй.

**Цэны на Камароўскім рынку ў Мінску (у тысячах рублёў) за кілаграм**

**Прыватны гандаль:** свініна — 850—2 000; ялавічына — 600—1 800; куры — 750—907; грэцкія крупы — 465—603; рыс — 320—425; цукар — 220—259; капуста — 70—110; морква — 110—200; рэпчатая цыбуля — 130—170; вінаград — 800—2 500; лімоны — 560—900; бананы — 400—600; мандарыны — 480—1 000; яблыкі (бел.) — 300—450; яблыкі (імп.) — 500—1 000.

**Курс долара ЗША:**

**пакупка** — 640 000—720 000 рублёў за 1 долар ЗША;

**продаж** — 660 000—730 000 рублёў за 1 долар ЗША.



АКТУАЛЬНА

# ПАДПІСАНЫ БЕЛАРУСКА-РАСІЙСКІ ДАГАВОР

**8 снежня падчас візіту Прэзідэнта Беларусі А. Лукашэнкі ў Маскву адбылося падпісанне дагавора аб стварэнні саюзнай дзяржавы Беларусі і Расіі.**

**Напярэдадні прэзідэнты правялі сустрэчу сам-насам, у ходзе якой абмяняліся думкамі адносна перспектыў практычнай рэалізацыі беларуска-расійскіх дамоўленасцей. А ўжо выступаючы на пасяджэнні Вышэйшага Савета, Прэзідэнт Беларусі выказаў меркаванне, што Саюз Беларусі і Расіі адбыўся і на справе прадэманстраваў перавагі беларуска-расійскага яднання. За апошнія два гады тавараабарот паміж дзвюма краінамі павялічыўся на 150 працэнтаў. Гэта, на яго думку, лепшае сведчанне беларуска-расійскай інтэграцыі. "Саюз даў магчымасць паспяхова супрацоўнічаць у галіне абароны і бяспекі, а таксама на міжнароднай арэне", — сказаў Аляксандр Лукашэнка. У якасці паспяховага прыкладу беларуска-расійскага ўзаемадзеяння ён прывёў факт цеснага супрацоўніцтва беларускай і расійскай дэлегацый на саміце АБСЕ ў Стамбуле. "Падпісаны дагавор, — адзначыў беларускі Прэзідэнт, — гэта толькі пачатак стварэння Саюзнай дзяржавы Расіі і Беларусі.**

**Прэзідэнт Расіі Барыс Ельцын у сваім выступленні назваў Дагавор аб стварэнні саюзнай дзяржавы "эпахальным дакументам". "Нашы краіны атрымалі дзейсны інструмент для стварэння адзінай эканамічнай, мытнай, абароннай, гуманітарнай, інфармацыйнай прасторы. Нашы дзеянні ацэняць нашчадкі", — сказаў ён.**

* * *

У той жа дзень, калі адбылося падпісанне дагавора ў Маскве, у Мінску перад студэнтамі лінгвістычнага універсітэта выступаў пасол ЗША ў Беларусі Дэніел Спекхард.

Найбольш цікавай часткаю сустрэчы сталі адказы амерыканскага дыпламата на пытанні студэнцкай аўдыторыі. Студэнты ВНУ праявілі сваю дасведчанасць у галіне палітычных і эканамічных падзей і задавалі розная пытанні, не адчуваючы асобай нясмеласці перад высокім статусам госця. Так, адным з першых было пастаўлена пытанне пра адносіны пасла да беларуска-расійскага дагавора, падпісанне якога праходзіла ў той жа дзень у Маскве. Д. Спекхард заявіў, што стварэнне Саюзнай дзяржавы Беларусі і Расіі з'яўляецца ўнутранай справай гэтых краін, хаця ў той жа час, на яго асабістую думку, такі знешнепалітычны акт можа негатыўна адбіцца на эканамічным становішчы Беларусі. У прыватнасці, пасол выказаў думку, што для Беларусі будуць непрымальныя экспартна-імпартныя падаткі і зборы, якія ў цяперашні час дзейнічаюць у Расіі. Абгрунтоўваючы сваю пазіцыю, дыпламат адзначыў, што Расія з'яўляецца дзяржавай, якая мае багатыя прыродныя сыравінныя рэсурсы, у той час як для Беларусі варта арыентавацца на сваю высокакваліфікаваную працоўную сілу і гандаль канчатковымі прадуктамі вытворчасці.

Ігар ПАПОЎ.

ЭКАНОМІКА

## НАЦЫЯНАЛЬНАЯ ПРАГРАМА РАЗВІЦЦЯ ЭКСПАРТУ

*У Беларусі рыхтуецца Нацыянальная праграма развіцця экспарту на 2000—2005 гады. Яе першапачатковы варыянт быў разгледжаны на пасяджэнні Прэзідыума Савета Міністраў, якое адбылося 14 снежня пад старшынствам прэм'ер-міністра Сяргея Лінга.*

На пасяджэнні планавалася прыняць прапанаваны варыянт праграмы і накіраваць яго на зацвярджэнне Прэзідэнту краіны. Аднак у ходзе праведзенага далёка не фармальна, а сапраўды зацікаўленага абмеркавання высветлілася, што ў дакументе шэраг недакладнасцей, супярэчнасцей, якія часам цалкам выключаюць адна адну.

Перш за ўсё, была звернута ўвага на неабходнасць выпрацоўкі стратэгіі беларускага экспарту, 95—96 працэнтаў якога складаюць прамысловыя тавары. Але ж у рэспубліцы ёсць таксама шматгаліновая сельская гаспадарка. На думку першага намесніка міністра эканомікі Мікалая Зайчанкі, на адной толькі льнаводчай прадукцыі краіна штогод магла б зарабляць мільёны долараў. Аднак гэтага пакуль што няма.

Папроку заслужылі і некаторыя прадпрыемствы. Сярод іх, паводле слоў прэм'ер-міністра Сяргея Лінга, ёсць такія, дзе наўмысна заніжаюць аб'ёмы таварнага экспарту і доларавай выручкі.

Першы намеснік прэм'ер-міністра Васіль Далгалёў, міністры транспарту і камунікацый — Аляксандр Лукашоў, архітэктуры і будаўніцтва — Генадзь Курачкін, старшыня праўлення Нацыянальнага банка Пётр Пракаповіч, памочнік Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь Пётр Капітула, прэзідэнт канцэрна "Белнафтахім" Іван Бамбіза і іншыя, хто прымаў удзел у абмеркаванні гэтых пытанняў, адзначалі, што неабходна зняць многія бар'еры для будучага беларускага экспарту.

У выніку Прэзідыум Саўміна адобрыў работу, праведзеную творчым калектывам вучоных і работнікаў вытворчасці па стварэнню Нацыянальнай праграмы развіцця экспарту на 2000—2005 гады.

Алег ШВЕДАЎ, БелТА.

НА МЯЖЫ СТАГОДДЗЯЎ



# Уладзімір ПРАКАПЦОЎ: «ПАКУЛЬ МЫ Ў СТАНЕ ЭКСПАНАВАЦЬ МЕНШ ТРОХ ПРАЦЭНТАЎ НАШЫХ ФОНДАЎ»

(Заканчэнне. Пачатак на 1-й стар.).

**У канферэнцыі ўзялі ўдзел 22 мастацтвазнаўцы з розных краін. Уладзімір Пракапцоў — сам вядомы мастацтвазнаўца, і цікава пачуць яго ўражанні ад падзеі:**

— Было надзвычай карысна паслухаць калег, рэстаўратараў з багатым вопытам, — кажа Уладзімір Іванавіч. — Апошнім часам нашы сувязі паслаблі, вось мы і вырашылі: неабходна аднавіць кантакты, прычым на больш высокім, сучасным узроўні. Менавіта гэта — адна з мэт нашай канферэнцыі.

Я вельмі ўдзячны за сумесную працу дырэктару Музея гісторыі мастацтваў горада Вены спадару Зайпелю, дырэктару Дзяржаўнай Траццякоўскай галерэі Валянціну Радыёнаву. Дарэчы, у наступным годзе мы атрымаем з Траццякоўкі невялікую, але цікавую выставу работ XIX стагоддзя.

У рабоце канферэнцыі ўдзельнічала дырэктар Смаленскага мастацкага музея-запаведніка Расіі, супрацоўнікі рэстаўрацыйнага цэнтра імя Грабара.

З дырэктарам Нацыянальнага музея Варшавы спадаром Рушчыцам заключана дамоўленасць, што ў канцы 2000-га года, калі спаўняецца 130 год з дня нараджэння яго блізкага сваяка, Фердынанда Рушчыца, вядомага мастака родам з Беларусі, арганізуем у нас у музеі спецыяльную выставу, прымеркаваную да юбілею. На жаль, ва ўласных фондах мы маем толькі адну работу выдатнага творцы — палатно пад назвай "Ля касцёла". Добрыя калекцыі работ Рушчыца захоўваюцца ў Варшаве і Вільнюсе. Таму спадзяемся на супрацоўніцтва з калегамі.

— *Застаецца толькі парадавацца за беларускіх аматараў выяўленчага мастацтва. А як жа праблемы? Няўжо няма?*

— Ёсць, яшчэ як ёсць! І адна з іх з асаблівай вастрынёй паўстала пры падрыхтоўцы выставы "На мяжы тысячагоддзяў", прысвечанай айчыннаму мастацтву 80-х—90-х гадоў. Мы надзвычай заклапочаны папаўненнем калекцыі сучаснага беларускага мастацтва, з чым назіраюцца цяжкасці, асабліва ў апошнія пяць год.

— *Няма вартых твораў?*

— Выдатныя работы маюцца, і нямала. Нестае грошай, каб набыць тое, што хацелася б.

— *Сёння амаль ва ўсіх не хапае грошай...*

— Трэба разумець: Нацыянальны мастацкі музей — гэта не толькі своеасаблівая візітная картка краіны, не толькі эстэтычна-культурны, але і выхаваўчы цэнтр, скіраваны на падтрыманне духоўнасці нацыі, беражлівых адносін маладога пакалення да спадчыны папярэднікаў.

Калі выстройваць прыярытэты дзяржаўнай палітыкі ў галіне культуры, я вылучыў бы "тры кіты": нацыянальны мастацкі музей, нацыянальны тэатр, нацыянальную бібліятэку. Згубім іх — згубім будучыню нацыі.

— *Але ж дзяржава фінансуе Мастацкі музей...*

— Безумоўна, фінансуе. Міністэрства культуры рэгулярна выдаткоўвае значныя сумы, выдзяляе гранты фонду па падтрымцы культуры, але гэтых грошай мала. Таму на будучыню ставім сабе задачу — дабіцца максімальнага наведвання нашых выстаў і тым самым дасягнуць іх акупнасці. А паказаць нам ёсць што.

— *Уладзімір Іванавіч, якая ваша палітыка пры фарміраванні выставачных планаў?*

— Адносна выставачнай канцэпцыі скажу, што, на мой погляд, у Нацыянальным мастацкім музеі павінны прасочвацца некалькі пэўных накірункаў.

Першы — экспанаванне ўласнай фондавай калекцыі. Дарэчы, яна ў нас — найбагацейшая: 2,5 тысячы адзінак захоўвання — старажытнабеларускае, сучаснае беларускае, рускае, заходнееўрапейскае, усходняе мастацтва... Пакуль мы ў стане выставіць на агляд меней трох працэнтаў нашых каштоўнасцей.



Нацыянальны мастацкі музей Беларусі.

Другое — работа з музеямі замежжа па міжнародных кантактах. Актыўна супрацоўнічаем з пасольствамі Германіі, Японіі, Францыі, іншымі. І трэці накірунак — паказаць усё лепшае, створанае беларускімі мастакамі.

— *Каб выставы паспяхова наведваліся, неабходная пэўная рэклама, як сёння кажуць, "рухавік прагрэсу".*

— Рэкламы ў нас недастаткова, нават у Мінску.

Але свайго роду рэкламай могуць служыць тыя канцэрты, што традыцыйна наладжваюцца ў фае музея, дзе выдатная акустыка. Такая форма работы, мне здаецца, прыжылася. Нашы канцэрты ў поўным сэнсе — элітарныя, з запрашэннем лепшых беларускіх і замежных выканаўцаў. Усё гэта, верыцца, паспяхова працуе на прыцягальны імідж і трывалую рэпутацыю нашага музея.

**Сярод сённяшніх шматлікіх клопатаў Уладзіміра Пракапцова найгалоўны — будаўніцтва: Нацыянальны мастацкі музей Беларусі пашырае свае плошчы. Неабходнасць гэтага наспела даўно. І сёлета, пасля наведвання музея Прэзідэнтам краіны, упершыню за ўсю гісторыю ўстановы падпісаны дакумент пад назвай "Аб комплекснай развіцці Нацыянальнага музея Рэспублікі Беларусь". Прадугледжваецца завяршыць новае будаўніцтва, рэканструяваць старое памяшканне, далучыць да комплексу два суседнія дамы. І тады атрымаецца невялікі квартал, дзе паселяцца музы, пра што даўно марыць Уладзімір Іванавіч і яго калегі. Пажадаем, каб надзеі музейшчыкаў як мага хутчэй здзейсніліся, што, між іншым, у нашых агульных інтарэсах.**

**Галіна УЛІЦЁНАК.
Фота Віктара СТАВЕРА і БелТА.**



*Узводзіцца новы корпус музея.*



*Знаёмства з экспазіцыяй.*



*Мікалай СЕЛЯШЧУК "Люблю цябе сустракаць".*

УРАЖАННІ

# «МНОГІЯ ЛЕТЫ» ЮБІЛЯРЦЫ СПАДАРЫНІ ВАЛЯНЦІНЕ



Нядаўна ў Беларускай дзяржаўнай філармоніі адбылася творчая (юбілейная) вечарына Валянціны Карэлікавай. Якраз перад гэтым, напярэдадні, на імпрэзе ў Доме дружбы, прысвечанай Дню незалежнасці Латвіі і ўшанаванню беларускага паэта Латгаліі Станіслава Валодзькі, Валянціна дала запрашальнік на сваю ўрачыстасць, прымеркаваную да 25-годдзя творчай дзейнасці.

Дык хто ж яна, Валя Карэлікава, як чалавек і творчая асоба?

Вечарына ў філарманічнай зале дала магчымасць убачыць і адчуць, што перад намі вясёлы і кампанейскі чалавек, да таго ж смелы, нават непрадказальны ў думках і дзеяннях, вострь на слова. Ды пры знешняй задзірыстасці ў душы Валянціна — чалавек мяккі, лірычны, часамі журліва-засмучаны. Усцешна бачыць на сцэне не стандартызаваную напаўробаталяльку, створаную не майпрыродай, а ўвішнымі іміджмекерамі, а жывога ў руках і словах чалавека, які то нечакана залівіста засмяецца, а потым раптоўна нечым абурыцца і заблісkae вачыма-бліскавіцамі, ці зажурыцца-засмуткуецца разам з песняй, у якой пяецца пра спрадвечна нялёгкую жаночую долю...

Калі казаць пра абсяг музычных здольнасцей, дык, бадай, Карэлікавай няма роўні не толькі ў Беларусі, але і на разлеглых сусветных абсягах: Валянціна — музыка-віртуоз, якому, мабыць, падуладнае любое музычнае прыладдзе, любая тональнасць, пачынаючы ад скрыпкі-плачкі да класічных мелодый раяля і канчаючы разухабіста-вясёлым бубнам. Добра (лепш не трэба) напісала пра гэта ў "Чырвонай змене" журналістка Валянціна Скарынкіна: "Не было на сцэне такіх інструментаў, на якіх яна не іграе, ды не па-дылетанцку, а высокапрафесійна. Домбра і фартэпіяна, кантрабас і дуда, ударныя і духавыя. Але ўсё ж самы любімы інструмент актрысы — гармонік. Іграе Валянціна на ім так віртуозна і агніста, што ствараецца ўражанне, быццам з ім і нарадзілася. А якія дасціпныя, з запалам прыпеўкі праспявала, прытанцоўваючы і акампануючы сабе на гармоніку!"

Свае здольнасці Валянціна паказала і ў эстрадным жанры, хоць яе стыхія не тут, а ў народнай песні, дзе, мяркую, ёй варта праяўляць большую творчую смеласць і свой асабісты падыход, пранікаючы ў глыбіню душы першастваральніц песень, звычайных беларускіх жанчын, якія тады, шмат стагоддзяў назад, не столькі пяялі, колькі жаліліся перад людзьмі і Богам на сваю долю. А што наша таленавітая сучасніца здольная пранікаць за смугу часу і "ўлазіць у шкуру" сваёй далёкай-далёкай прарадзіцкі, засведчыла праспяваная на вечарыне пад уласны акампанемент на раялі песня "Ды я жыта ды не жала".

Такая манера шчымліва-пранікнёнага выканання з заглыбленнем у сутнасць мастацкага вобраза, мяркую, вартая падтрымкі і самай высокай пахвалы. Бо, за рэдкімі выключэннямі, сёння народная песня бяздушна і бяздумна эксплуатуецца як у асабістым, так і гуртовым, калектыўным выкананні. Усё менш і менш застаецца ў нас праўдзівых народных выканаўцаў і аўтэнтычных фальклорных гуртоў, усё нахабней, падладжваючыся пад народнае, духоўную прастору заваёўвае крыклівая самадзейнасць.

Ды не прыхільнік я фальклорнага "фундаменталізму", паслядоўнікі якога адмаўляюць саму магчымасць абнаўлення, ці, іначай, пераўтварэння, тварэння на традыцыйным грунце народнай творчасці новага, сучаснага па форме і манеры выканання мастацтва, якое таксама нясе людзям і радасць спазнання, і духоўнага ачышчэння. Пацвярджэнне гэтаму — выступленне славутых "Харошак", артысты якога на гэты раз асабліва шчыравалі, стараючыся дагадзіць і нам, гледачам, і сваёй колішняй "харашысцы" Карэлікавай, якая, адлучыўшыся ад калектыву, засталася ягонай шчырай прыяцелькай і прыхільніцай, а кіраўнічку, Валянціну Гаявую, неадноичы называла сваёй мамай. А яе бацькам, паводле такога сваяцтва, з'яўляецца Ігар Лучанок — цяпер старшыня Саюза кампазітараў, які шмат значыў у яе творчым лёсе, ды і на гэты раз, мабыць, паспрыяў, каб вечарына атрымалася наўздзіў багатай на выступленні сапраўдных талентаў, якімі Бог не абдзяліў беларускую зямлю. Была тут Надзея Мікуліч, якая спраўдзіла самыя лепшыя надзеі сваіх прыхільнікаў-заўзятараў і высока нясе годнасць нацыянальнага мастацтва, не падладжваючыся пад мімалётныя стандарты зорак-пустацветак, застаючыся вернай свайму голасу і таленту, былі мулявінскія "Песняры" разам са сваёй колішняй славутасцю — Леанідам Барткевічам, які, як вядома, жыве ў Амерыцы і прыляцеў праз акіян на магілёўскі "Залаты шлягер", а па звароце адтуль завітаў на вечарыну Валянціны. І, напэўна, не пашкадаваў, бо зала вітала яго так узрушана, шчыра і цёпла, што ў "песняра" заімгліліся слязой вочы і ад хвалявання перасеў голас. Што б ні казалі, чым бы ні спакушалі, а душу, жывую і чыстую, якая найперш любіць свой край і народ, ніякая залатая Амерыка не спатоліць і не заменіць Бацькаўшчыны. Спяваў там і Якаў Навуменка, які працаваў разам з Карэлікавай у "Бяседзе", было "Свята", студыя "Сябры" і галоўны духавы аркестр Міністэрства абароны. Як заўжды ярка і свежа, прагучала па-народнаму сакавітае і трапнае слова Міхася Дрынеўскага, вартага нашчадка свайго папярэдніка і настаўніка Генадзя Цітовіча, чыё імя носіць узначалены Дрынеўскім народны хор. Высокаадухоўлены ўрачысты спеў гэтага галасістага калектыву гучаў з філарманічнага паднябесся (балкона), славячы юбілярку, жадаючы ёй "Многія леты..."

Васіль Купрыяненка, кіраўнік гурта "Свята", сказаў: "У беларускім мастацтве ёсць тры Валянціны — Гаявая, Пархоменка і Карэлікава". Сярэдняя сярод іх, як вядома, з'ехала з мужам, таксама выдатным артыстам Рыгорам Казаком, у Амерыку, і яе адсутнасць на беларускай сцэне адчуваецца і дасюль. Дык давайце, шаноўныя, хоць крышку парупімся і паспрыяем, каб лепшыя сыны і дочкі Беларусі не шукалі за светам свайго (а яно прывіднае) шчасця, а мелі нязай не раскошу, а хаця б сціплыя ўмовы для самасцвярджэння тут, на Бацькаўшчыне, і дарылі свой талент яе людзям, яе народу...

**Яўген ЛЕЦКА.**







**НА ЗДЫМКАХ: Валянціна КАРЭЛІКАВА; выступае Надзея МІКУЛІЧ; разам з сябрамі (першы злева БАРТКЕВІЧ); віншаванні юбілярцы ад М. ДРЫНЕЎСКАГА.**

**Фота Яўгена КОКТЫША.**

СУСТРАКАЕМ 2000-ны

**Уладзімір СКАРЫНКІН**, *паэт.*

1. Сёлета мы адсвяткавалі 60-гадовы юбілей уз'яднання Заходняй і Усходняй Беларусі. Лічу гэта вельмі важнай падзеяй XX стагоддзя, бо ўпершыню этнічныя беларусы апынуліся разам, у адной рэспубліцы, тады ж адразу пачалася другая хваля беларусізацыі.

Не менш важнай падзеяй гэтага стагоддзя стала набыццё нашай краінай незалежнасці ў жніўні 1991 года.

2. Як апошняе стагоддзе, так і ўсё другое тысячагоддзе вызначаюцца крывавымі войнамі. Я сам перажыў трагедыю другой сусветнай вайны, быў вывезены ў Германію... і вельмі не хачу, каб войны перайшлі і ў наступнае тысячагоддзе.

А што хацеў бы ўзяць? Усе набыткі беларускай культуры, музыкі, літаратуры XX стагоддзя. У першую чаргу, творы Купалы, Коласа, Багдановіча і, канешне, сучаснікаў — Мележа, Караткевіча, Пташнікава, Брыля — усіх не пералічыш.

Мару, каб беларусы ў трэцім тысячагоддзі адчулі сябе паўнапраўнай, цывілізаванай, культурнай нацыяй і каб наша краіна, кажучы словамі Купалы, заняла "свой пачэсны пасад між народамі".

3. Нядаўна выйшла ў свет перакладзеная мною на беларускую мову "Боская камедыя" Аліг'еры Дантэ. Дантаўская тэма вельмі зацікавіла мяне, і зараз я працую над другім творам вялікага паэта — перакладаю "Новае жыццё". Разам з Кастусём Цвіркам планую выпусціць кнігу выбраных твораў Дантэ ў папулярнай серыі "Беларускі кнігазбор".

Акрамя таго, вельмі хачу, каб у выдавецтве "Юнацтва" выйшла мая дзіцячая кніжка "У карэце па белым свеце". Яна распавядае пра тое, як я са сваімі ўнучкамі і іх сябрамі гойсаю ў зорным небе.

Жадаю ўсім часцей любавацца прыгажосцю зорнага неба.

**Марыя ЗАХАРЭВІЧ**, *народная артыстка БССР, лаўрэат Дзяржаўнай прэміі БССР, артыстка Беларускага дзяржаўнага драматычнага тэатра імя Янкі Купалы.*

1. Заканчэнне Вялікай Айчыннай вайны.

2. Узяла б самае, на мой погляд, галоўнае — мір. Хацела б пакінуць у гэтым стагоддзі зайздрасць, раз'яднанасць, нядобразычлівасць — тыя якасці, што перашкаджаюць жыць усім нам па-людску.

3. Тое, што параіць і дасць Бог!

**Аляксей ЛЯЛЯЎСКІ**, *мастацкі кіраўнік і галоўны рэжысёр Дзяржаўнага тэатра лялек.*

1. Найбольш моцны ўплыў на гісторыю Беларусі ў XX стагоддзі аказала ўсталяванне савецкай улады. Менавіта чырвоная дыктатура згубіла нацыянальную ідэю і свядомасць беларусаў. Наша краіна і кожны чалавек, у прыватнасці, — ахвяры названых падзей.

2. Чалавек не можа свядома нешта ўзяць у будучыню ці пакінуць у мінулым. Ён не з'яўляецца ўладаром таго, што застаецца ў ягонай душы. Кожны з нас развіваецца паступова. Гэта ж адбываецца і з грамадствам. Мы можам толькі ацэньваць здабыткі, страты,а не ўплываць на іх.

3. Я не бачу нічога асаблівага ў заканчэнні стагоддзя. Мне нават дзіўна, што вакол столькі шуму. Няма розніцы — сустракаць 1995, 2000 ці 2001 год. Жыццё як ішло, так і ідзе. Пачатак новага стагоддзя ўспрымаецца вельмі значна палітыкамі, бо для іх важныя выбары, усялякія тэрміны і гэтак далей. Для гандлю наступае час, калі можна прадаць яшчэ больш розных тавараў. А які можа быць рубеж для тых, хто робіць канкрэтную справу (арэ зямлю, іграе ў тэатры)? Звычайны Новы год, калі ў тэатры лялек, напрыклад, з'явіцца ёлка для дзяцей (і яна, дарэчы, не бывае галоўнай ці наадварот), пройдуць святочныя спектаклі. І мы будзем зноў і зноў радавацца таму, што з нашай дапамогай дзеці сталі крыху шчаслівейшымі.

**ПРЭЗЕНТАЦЫЯ**



Удзельнікі вернісажу і члены Міжнароднай гільдыі жывапісцаў.

# ЯК БЕЛАРУСКАМУ МАСТАКУ ТРАПІЦЬ У ЕЎРОПУ?

З'ЯВІЛАСЯ НОВАЕ МАСТАЦКАЕ АБ'ЯДНАННЕ — "МІЖНАРОДНАЯ ГІЛЬДЫЯ ЖЫВАПІСЦАЎ"

7 снежня 1999 года ў Музеі сучаснага выяўленчага мастацтва адбылася выстава-прэзентацыя твораў мастакоў — членаў суполкі, адзінай на Беларусі, якая мае міжнародны статус. Гільдыя аб'ядноўвае жывапісцаў, манументалістаў, акварэлістаў розных напрамкаў — рэалістычнага і авангарднага (перформанс, асамбляж, аб'ект, канцэптуальнае мастацтва), крытыкаў. Па словах прэзідэнта Міжнароднай гільдыі Фёдара Ястраба, цяперашні "апісальны" характар мастацтвазнаўства несучасны. Крытыка павінна быць аналітычнай. І не яе справа абслугоўваць мастакоў, як гэта часта бывае.

Новае мастацтва і крытыка вымагаюць шырокіх кантактаў з рознымі краінамі, дзе шмат цікавых своеасаблівых мастакоў. У планах гільдыі — наладзіць стасункі з замежнымі творчымі асобамі. Ужо ёсць дамоўленасці з Францыяй, Швецыяй, Румыніяй, Бельгіяй (у Бруселі, хутчэй за ўсё, адкрыецца другая штаб-кватэра). Вельмі важным партнёрам гільдыя лічыць нямецкіх мастакоў, бо менавіта ў Германіі — самы моцны галерэйны рух і мастацкі рынак, на якім захоўваюцца стабільныя цэны.

У беларускае аддзяленне ўвайшлі трыццаць вядомых мастакоў: Барыс Казакоў, Анатоль Кузняцоў, Сяргей Рымашэўскі, Мікалай Бушчык, Сяргей Малішэўскі і іншыя. Менавіта іх творы можна было ўбачыць на выставе. Галоўная адметнасць — разнастайнасць па стылю, тэматыцы, святлоадчуванню. Аб'ядноўвае ж працы высокі прафесіяналізм. Лірычны твор Сяргея Рымашэўскага "Забыты час" (настальгія па цеплыні і абароненасці дзіцячага свету) суседнічае з экспрэсіўнымі абстрактнымі работамі Фёдара Ястраба з "Антычнага цыкла". Тут жа карціны Сяргея Малішэўскага "Некрамуз", "Вячэрняя прагулка" — вельмі нечаканыя па сюжэту, які ледзь прасочваецца, але цікава і добра напісаныя.

Выстава — не першая акцыя гільдыі. У лістападзе ў Доме літаратара быў наладжаны Арт-салон — імправізацыя. Паэты, музыкі, харэографы імправізавалі на тэму карцін. Падзея зацікавіла дзеячаў мастацтва, бо, як правіла, яны нячаста сустракаюцца адзін з адным. Мяркуецца праводзіць такі салон сумесна з Саюзамі пісьменнікаў і кампазітараў штогод.

Асноўнай задачай Міжнароднай гільдыі жывапісцаў з'яўляецца наладжванне шырокага ўзаемадзеяння паміж рознымі культурамі, правядзенне абменных выстаў у замежжы (дамоўленасці існуюць), міжнародных пленэраў і фестываляў. Такая дзейнасць скіравана на больш адкрыты свет для творцаў. У наступным годзе гільдыя прадставіць беларускіх мастакоў на знакамітым аўкцыёне "Друо" ў Парыжы. Па словах Фёдара Ястраба, там ужо былі нашы землякі, але чамусьці як прадстаўнікі Расіі. Паколькі некаму аднаму трапіць на аўкцыён даволі цяжка, то, магчыма, дзякуючы гільдыі жывапісцаў, у Еўропе ўсё ж пра беларусаў пачуюць. У планах — правядзенне летам 2000 года ў Бранску (Расія) міжнароднага пленэра, у красавіку — міжнароднага фестывалю "Экафорум", восенню наступнага года — фестывалю "Міф-Арт" (прысвечанага славянскай міфалогіі).

Мастацкае аб'яднанне не ствралася як альтэрнатыва Саюзу мастакоў (нельга і параўноўваць маштабы арганізацый, матэрыяльную базу). Але, па меркаванню Фёдара Ястраба, калі Саюз мастакоў меў у сваёй аснове найперш ідэалогію, то сучаснасць патрабуе аб'яднання мастацкай ідэі. Такія суполкі будуць адпавядаць сённяшняму дню, накірункам у жывапісе і рэальнасцям мастацкага рынку. Як будуць фінансавацца мерапрыемствы гільдыі? Грошы плануецца зарабляць праз камерцыйныя салоны, продаж карцін. Ёсць надзея на гранты. Рэальна сёння ж дапамагаюць спонсары, прадстаўнікі беларускага бізнесу.

Калі Міжнародная гільдыя жывапісцаў здзейсніць запланаванае, ёй удасца ўзняць беларускі мастацкі рынак на вышэйшы ўзровень. Ёсць мастакі, якія і самі ў стане выехаць за мяжу, арганізаваць уласную выставу і г. д. Але шмат таленавітых творцаў, якія няздольныя самі сябе прадзюсіраваць. Найперш ім і патрэбнае супрацоўніцтва з гільдыяй.

**Алена СПАСЮК.**



Загадчык кафедры народных рамёстваў Універсітэта культуры Рыгор ШАУРА (злева) і намеснік дырэктара Музея сучаснага выяўленчага мастацтва Канстанцін ФЕДАРЫШКІН (справа) з удзельнікамі ансамбля "Festivo".

**Фота Віктара СТАВЕРА.**

**БЕЛАРУСЫ Ў ЛІТВЕ**

● **Леў МІРАЧЫЦКІ.**

# АГУЛЬНАЯ МІНУЎШЧЫНА ПАТРАБУЕ ПАШАНЫ

**ВІТАЎТ, ВЯЛІКІ КНЯЗЬ ЛІТОЎСКІ**

*Княжанне Вітаўта лічаць усе летапісцы*
*Росквітам княства Літоўскага, нашага краю.*
*І называюць той век залатым...*
*(Мікола Гусоўскі "Песня пра зубра").*

Так высока ацэньвалася дзяржаўна-палітычная дзейнасць вялікага князя Вітаўта, "які свет даўніны вывучаў па кнігах славянскіх", па-бацькоўску клапаціўся пра падданых. З яго асобай паэт-гуманіст Мікола Гусоўскі звязваў найвышэйшы ўздым Літоўска-Беларускай дзяржавы. Яе абшар на пачатку XV стагоддзя распасціраўся ад узбярэжжа Балтыйскага да Чорнага мора і схілаў Карпатаў на поўдні, ад рэкаў Буг і Нарва на захадзе, да вярхоўя Волгі і яе прытоку Акі на ўсходзе. Такога кульмінацыйнага пункту тэрытарыяльнай экспансіі дасягнула яна, стаўшы найбуйнейшай феадальнай федэрацыяй у Еўропе.

Аднак шлях Вітаўта да велікакняжацкага пасаду, славы і велічы быў даволі пакручастым, доўгім, цяжкім і напружаным. Яму нават давялося змагацца са стрыечным братам Ягайлам, сынам Альгерда, які забіў ягонага бацьку Кейстута (1382).

Крыўда паклікала Вітаўта да помсты. Ён накіроўваецца да крыжакоў, заключае з імі саюз, прымае каталіцкую веру і становіцца васалам. Аднак пазней, упэўніўшыся, што барацьба з Ягайлам не мае перспектывы, згадзіўся заключыць з ім мір. За такую разважлівасць і памяркоўнасць атрымаў Бярэсце і Гародню.

Паколькі асноўнае насельніцтва тут было праваслаўным, Вітаўт і сам пераходзіць з каталіцтва ў праваслаўе. Але ў час заключэння Крэўскай уніі (1385) разам з Ягайлам і іншымі князямі зноў прымае каталіцкую веру. Праз некаторы час, пераканаўшыся, што шырокія колы грамадства непрыхільна ставяцца да Крэўскай уніі, якая звяла на нішто самастойнасць Вялікага княства Літоўскага, да таго ж асабістая незадаволенасць Ягайлам, які сваім намеснікам у дзяржаве паставіў не яго, а князя Свідрыгайлу, Вітаўт зноў пачынае барацьбу.

Ранейшую палітыку Вітаўт працягваў у адносінах да Смаленска, Пскова і Ноўгарада. Тры разы хадзіў ён супраць Масквы. Апошні раз — у 1408 годзе. Сустрэўшыся з маскоўскім войскам на рацэ Угры, Вітаўт вырашыў у бой не ўступаць. З маскоўскім князем Васіліем, сваім зяцем, дамовіліся заключыць мір і правесці мяжу паміж сваімі ўладаннямі, якая сталася крайняй усходняй граніцай Вялікага княства Літоўскага.

Як і раней, небяспечным ворагам для вялікага князя Вітаўта заставаўся Тэўтонскі ордэн, які ўтрымліваў Жамойцію. Таму галоўнай мэтай свайго жыцця Вітаўт лічыў вяртанне пад сваю ўладу Жамойціі і канчатковы разгром Тэўтонскага ордэна.

**ВЫПРАВА НА ГРУНВАЛЬД**

У снежаньскія дні 1409 года ў Бярэсці патаемна адбылася нарада паміж вялікім князем літоўскім Вітаўтам і каралём Польшчы Уладзіславам Ягайлам. Гісторыкі адзначаюць, што яна доўжылася восем альбо дзевяць дзён і тычылася не толькі вайсковых праблем, але адначасова і важных палітычных спраў. Найважнейшым было абмеркаванне і выпрацоўка плана ваеннай кампаніі на 1410 год. Паводле Яна Длугаша, кіраўнікі саюзных дзяржаў вызначылі дзень і месяц, калі павінны былі аб'яднацца іх войскі, абмеркавалі спосаб пераправы войскаў за Віслу. Падобная нарада і старанная падрыхтоўка стратэгічнага плана былі для таго часу з'явай незвычайнай.

Трэба зазначыць, што задоўга да пачатку вайны ўжо збіраліся звесткі пра ордэнскую дзяржаву, якая фармавалася на балтыйскіх прускіх землях. Крыжакі ў сваіх уладаннях мала цікавіліся настроямі падданых. На пераломе XIV і XV стагоддзяў нямецкае насельніцтва складала тут выразную меншасць — каля адной трэцяй усіх жыхароў. Праўда, весці гаспадарку яны навучыліся ўзорна, падтрымлівалі цесныя сувязі з многімі краінамі Еўропы. Неўзабаве тэўтонцы змянілі тактыку: дзеля паступовай асіміляцыі пачалі больш увагі надаваць кансалідацыі насельніцтва, у прыватнасці, будавалі новыя прывабныя паселішчы, што патрабавала немалых сродкаў.

Вітаўт, перадаючы Жамойцію прускім намеснікам, усё ж не жадаў, каб яна была чужой тэрыторыяй. Жамойція раней належала яго бацьку князю Кейстуту, ад якога перайшла яму ў спадчыну. Таму Жамойція знаходзілася пад апекай Вітаўта, і пры любой нагодзе ён напамінаў пра гэта. Так было, калі чэшскі місіянер-гусіт Іеранім Пражскі спрабаваў разгарнуць сваю дзейнасць, і гэта не спадабалася тэўтонцам. Вітаўт заступіўся за жмудзінаў, якія скардзіліся на ганіцеляў "веры продкаў". Жмудзіны заўсёды глыбока шанавалі Вітаўта і прызнавалі яго сваім правіцелем.

Па плану Вітаўта ў прускую Жамойцію мэтанакіравана пранікалі яго людзі, якія арганізоўвалі баявыя атрады. Адначасова пачаўся ад'езд жамойцкіх баяраў з падданымі ў вольную Літву. На абуральныя пасланні тэўтонскіх рыцараў Вітаўт адказваў, што "раней гаварылі аб перадачы Ордэну зямлі, але не людзей, якія на ёй жывуць, і таму сваіх падданых ён перасяляе на свае землі". Так паступова да лета 1409 года Жамойцію занялі атрады Вітаўта, якія чакалі яго загаду. Тэўтонскія рыцары фактычна былі асаджаны ў сваіх гарнізонах.

Прускіх крыжакоў па-ранейшаму цікавіла падтрымка іншых заходнееўрапейскіх краін. Туды яны ў 1409-м і ў 1410-м гадах слалі гарачыя адозвы амаль да ўсіх каралёў і князёў за выняткам Італіі і Іспаніі. Яны скардзіліся на вялікага князя Вітаўта і караля Уладзіслава Ягайлу, прасілі аб дапамозе дзеля выканання сваёй "пачэснай" місіянерскай ролі сярод паганцаў — ліцвінаў.

Актыўна дзейнічалі саюзнікі Вітаўта і Ягайлы. Польскія і літоўскія пасланнікі вербавалі патрэбных людзей і найперш там, дзе займаліся вярбоўкай і тэўтонцы. Былі яны ў Чэхіі, Аўстрыі, сярод саксонцаў. Ва Вроцлаве закуплялі ўзбраенне, ваенныя прылады, коней. Завербавалі там два аддзелы наёмнікаў, якія збіраліся на службу да тэўтонцаў-крыжакоў.

13 ліпеня вечарам пярэднія атрады беларуска-літоўскага і польскага войска падышлі і сталі абозам над Дубровенскім возерам у паўднёвай частцы Прусіі. На дзень раней прыбыло крыжацка-тэўтонскае войска і раскватаравалася ў ваколіцах Грунвальда, Людвікова і Таненберга.

Раніцай 15 ліпеня, калі рыцарскія трубачы апавясцілі наваколле мелодыяй песні-гімна "Божа, Багародзіца" аб пачатку бітвы, першай на левы фланг праціўніка напала лёгкая конніца Вялікага княства Літоўскага, якая складалася з беларуска-ўкраінскіх, літоўскіх і татарскіх атрадаў. Астатняя частка літоўска-беларускага войска пад камандаваннем вялікага князя Вітаўта засталася ў рэзерве.

На працягу гадзіны цягнуўся бой паміж лёгкай конніцай Літвы-Беларусі і цяжкай конніцай крыжакоў, пад напорам якой літоўска-беларускія атрады адступілі, заманьваючы праціўніка за сабой. Гэта была тактыка парушыць баявыя атрады крыжакоў, а пасля, калі будуць заўважаны змены, зноў вярнуцца на поле бітвы. Напружана ішла бітва на левым крыле літоўска-беларускага войска ў стыку з польскім і крыжакамі. Згодна з летапісам Быхаўца, " і пачалася бітва спярша паміж немцамі і літоўскім войскам, і шмат воінаў з абодвух бакоў літоўскіх і нямецкіх загінула". Увечары бітва закончылася перамогай войска саюзнікаў — Вялікага княства Літоўскага і Польскага каралеўства, куды ўваходзілі чэшскія і мараўскія атрады. Па сцвярджэнню гісторыкаў В. Пашуты і М. Ючаса, у польскім войску была 51 харугва (палкі), з якіх 7 украінскіх. 40 харугваў налічвала войска Вітаўта, з якіх 4 літоўскія, а 36 беларускіх, украінскіх і нават рускіх (з Вялікага Ноўгарада). Беларускія харугвы складалі значную частку войска Вялікага княства Літоўскага. Гэта былі харугвы Полацкая, Віцебская, Гарадзенская, Пінская, Новагародская, Лідская, Ваўкавыская, Мсціслаўская, Драгічынская, Мелніцкая, Старадубская. Былі і неназваныя атрады з беларускіх земляў, якія, як піша гісторык XV стагоддзя Ян Длугаш, насілі назвы сваіх князёў: Жыгімонта Карыбута, Сямёна Лугвена Альгердавіча, Георгія.

Праз некаторы час — 1 лютага 1411 года ў Торуні была падпісана дамова, паводле якой Тэўтонскі ордэн адмаўляўся ад Жамойціі ў ВКЛ і Добжынскай зямлі ў Польскім каралеўстве. Ордэну давялося выплачваць кантрыбуцыю 100 тысяч марак.

Беларускія гісторыкі, ацэньваючы важнае значэнне перамогі саюзных войскаў над Тэўтонскім ордэнам, амаль аднадушна адзначалі значную выніковасць дзейнасці дыпламатычных колаў той пары, спыненне феадальнай экспансіі ў славянскія і балтыйскія землі, што паслужыла палітычнаму заняпаду Ордэна. Але гучала і такое пытанне: а чаму вялікі князь Вітаўт не быў зацікаўлены ў поўным знішчэнні гэтай маладой сярэдневяковай дзяржавы? Ён выканаў сваю задачу, мяркуе маскоўскі гісторык Яўген Красулін, нанёс па Ордэну ўдар, які прымусіў немцаў вярнуць яму Жмудзь. А поўнае знішчэнне Ордэна Вітаўту было не патрэбна, бо ў гэтым выпадку ён застаўся б адзін на адзін з Польшчай, якая ўзмацнялася. Прусія патрэбна была яму ў якасці саюзніка. Дзякуючы сваёй палітыцы, Вітаўт сам пачаў гэтую вайну і сам яе закончыў, стаў адзіным пераможцам у ёй, не даўшы загінуць Ордэну і не дазволіўшы ўзмацніцца Польшчы. Я. Красулін прыходзіць да высновы, што адносіны паміж Вялікім княствам і Ордэнам не насілі таго характару, які "нам убівалі ў галовы так доўга. Літоўска-беларуская дзяржава не выступала ў ролі ахвяры, якая мела патрэбу ў абароне. Яна заўсёды дзейнічала ў сваіх інтарэсах, арыентуючыся на астатнія еўрапейскія дзяржавы, і імкнулася ўвайсці ў іх сям'ю паўнапраўным членам". Пераканаўчым выглядае сцвярджэнне, што пры Вітаўце гэтая мэта была амаль рэалізавана і дапамогу тут аказваў прускі Ордэн, які нямала зрабіў для таго, каб на карце Еўропы з'явілася яшчэ адно каралеўства. І не віна Вітаўта, што каласальная дзейнасць, якую ён правёў, так і не ўвянчалася каралеўскай каронай. Гэта зрабіла доўгім шлях беларускага народа да незалежнасці.

Пасля смерці Вітаўта люд паспаліты Літвы, перажыўшы дынастычную вайну, нямала зрабіў для назапашвання матэрыяльных і духоўных набыткаў, дзеля чаго імкнуўся развіваць самакіраванне гарадоў і мястэчак па ўзору нямецкіх — атрымаць так званае магдэбургскае права, набыць прывілеі, пры гэтым улічваліся мясцовыя звычаі і ўмовы. Іх атрымалі Вільня (1387), Бярэсце (1390), Гародня (1391) і іншыя гарады і мястэчкі.

З хрышчэннем Літвы ў 1387 годзе праз некаторы час, у 1413-м, была ахрышчана і Жамойція.

**Заканчэнне.**
**Пачатак у №№ 46—47, 49.**

**ВІНШУЕМ НАШЫХ ЧЫТАЧОЎ-КАТОЛІКАЎ З КАЛЯДАМІ!**

ЗАХАВАЙ ТРАДЫЦЫЮ

# «ПРЫЙШЛІ КАЛЯДКІ — БЛІНЫ ДЫ АЛАДКІ»

### "КАЛЯДКІ — ДОБРЫЯ СВЯТКІ!»

Так кажуць у народзе пра гэтае зімовае свята, якое з'яўляецца ці не самым яркім, прыгожым і вясёлым у народным календары. Зарадзілася яно ў незапамятныя язычніцкія часы: першапачаткова Каляды прысвячаліся богу Сонца і адзначаліся ў перыяд зімовага сонцастаяння. Пасля на Каляды наслаілася хрысціянскае свята Нараджэння Хрыстова, і сёння ў залежнасці ад веравызнання Каляды святкуюцца ў розныя дні: у католікаў — з 24 снежня па 6 студзеня, а ў праваслаўных — з 6 па 21 студзеня. Такім чынам, Каляды доўжацца 2 тыдні і ахопліваюць адразу 3 святы: уласна Каляды, Новы год і Вадохрышча (Хрышчэнне). Адпаведна адзначаліся і тры Каляды (тры куцці).

### "МАРОЗ, МАРОЗ, ХАДЗІ КУЦЦЮ ЕСЦІ"

Напярэдадні Каляд з самай раніцы ў кожнай хаце старанна прыбіраліся, уся сям'я мылася, а пасля пачыналі гатаваць вячэру.

За стол садзіліся, як толькі на небе з'яўлялася першая зорка. У гэтым звычаі адлюстраваліся вядомыя хрысціянскія ўяўленні пра цудадзейную зорку, якая паказвае вандроўнікам шлях да месца, дзе нарадзіўся Ісус. Пад абрус абавязкова клалі сена як напамін пра тое, што адразу пасля нараджэння Ісуса паклалі на сена ў хляве. Пасля па даўжыні выцягнутай з-пад абруса сцяблінкі меркавалі пра будучы ўраджай ільну і збожжа.

Святочная вячэра складалася з няцотнай колькасці страў, абавязковымі сярод іх былі бліны і куцця — каша з ячных, пшанічных ці грэцкіх круп. Пры гэтым да Каляд і Вадохрышча гатавалася "галодная", або посная куцця (прыпраўленая посным алеем), а на Новы год — "шчодрая", або мясная (з маслам ці салам). На ўсе тры куцці каша варылася ў адным гаршку і з аднолькавай колькасці круп. Звараную кашу да заходу сонца ставілі на покуці (адсюль і яе назва) на сена і пакрывалі хлебам. Каштаваць яе забаранялася не толькі да пачатку вячэры, але і ў час гатавання. Магічнае значэнне куцці тлумачылася тым, што зерне валодае якасцю доўга захоўваць і зноў аднаўляць жыццё, множыць яго і сімвалізуе земляробчы кругазварот і бясконцасць жыцця.

Кожны каштаваў усе стравы, якія падаваліся на святочны стол, у апошнюю чаргу елі куццю. Як толькі яе вымалі з печы, дзеці залазілі пад стол і пачыналі кукарэкаць пеўнем, квахтаць, як курыца, "каб многа выводзілася куранят, часцей куры несліся".

Быў распаўсюджаны і такі звычай: пасля таго, як куццю паставілі на стол, гаспадар адчыняў дзверы і праз парог тройчы клікаў:

*Мароз, мароз, хадзі куццю есці!*
*І ржа, і бель, хадзіце цяпер!*
*А ўлетку ў нас не бывайце,*
*Хлеба нашага не ўбівайце!*

На ўсе тры калядныя вячэры абавязкова пяклі бліны, прычым першы спечаны блін з кожнай вячэры адкладваўся і захоўваўся да канца Каляд. Пасля іх скормлівалі хатняй жывёле: карове — 1 блін, "каб аднаго цяляцю дала", авечкам — па 2 кавалкі, "каб па двое прынеслі ягнятак", і курам многа кавалачкаў — "каб многа яечак неслі".

### "ДЗЕ КАЗА ХОДЗІЦЬ — ТАМ ЖЫТА РОДЗІЦЬ"

Самы важны, вясёлы і прыгожы абрад у калядныя святы — безумоўна, калядаванне. Шумлівая група моладзі — тут і музыкі, і спевакі, і механоша — ходзіць ад аднаго двара да другога, віншуе гаспадароў са святам. У кожнай хаце яны спяваюць "калядкі" і "шчадроўкі" — песні, дзе ўслаўляюцца гаспадар і яго сям'я, выказваюцца ім найлепшыя пажаданні:

*У нашага дзядзькі двор гараджоны,*
*Дай, Божа, яму шчасця, здароўя!*
*А ў тым двары да тры карысці,*
*Да тры радасці, да тры радасці.*
*Адна радасць — ясна сонейка,*
*Другая радасць — часты зорачкі,*
*Трэцяя радасць — ясен месячык.*
*Ясна сонейка — то жонка яго.*
*Часты зорачкі — дробны дзетачкі.*
*Ясен месячык — то сам гаспадар.*

Паўсюдна калядоўшчыкі вадзілі з сабой "казу" — звычайна яе ролю выконваў найбольш вёрткі і гаваркі хлопец, апрануты ў вывернуты кажух і маску. Лічылася, што з дапамогай гэтай жывёлы можна выгнаць са двара "нячысцікаў", а таксама разлічваць у наступным годзе на добры прыплод жывёлы і багаты ўраджай, бо, як спявалася ў песнях калядоўшчыкаў, "дзе каза ходзіць — там жыта родзіць, дзе каза хвастом — там жыта кустом, дзе каза нагой — там жыта капой, дзе каза топ-топ — там жыта сем коп".

Абавязковым атрыбутам калядоўшчыкаў лічылася зорка — рухомая, асветленая знутры, размаляваная рознымі казачна-легендарнымі фігуркамі, якія бегалі па коле.

У дахрысціянскія часы зорка ўвасабляла сонцаварот, а з прыняццем хрысціянства набыла яшчэ біблейскія рысы віфлеемскай зоркі, якая асвяціла месца цудоўнага нараджэння Хрыста.

Гаспадары шчыра дзякавалі калядоўшчыкам, дарылі ім каўбасы, сала, бліны, цукеркі, грошы і на развітанне казалі: "Дай, Божа, даждаці і на тое лета спяваці".

### "НА КАЛЯДЫ ЎНОЧЫ ТРАШЧЫЦЬ, А ЎДЗЕНЬ ПЛЮШЧЫЦЬ"

Існавалі шматлікія народныя прыкметы, звязаныя з надвор'ем на Каляды. Так, калі ў калядны вечар і ноччу на небе шмат зорак, — летам у лесе будзе шмат грыбоў, на полі — "добры ўмалот", а ў хляве — добры прыплод жывёлы.

Завіруха ў калядныя вечары прадказвала пчалярам добрае раенне пчол і багаты медазбор, а град у першы дзень Каляд — вялікі ўраджай гароху. Таксама казалі, калі куцця зварылася добра і была смачнай, будзе добры ўраджай жыта.

### "ДАЙ, БОЖА, ЗНАЦЬ, З КІМ ВЕК ВЕКАВАЦЬ"

Пачатак новага года заўсёды агорнуты таямнічасцю: невядома, якім ён будзе, якія змены наканаваны лёсам. Адказ на гэтыя пытанні імкнуліся знайсці на працягу ўсіх Каляд з дапамогай варажбы.

Варажылі ў асноўным дзяўчаты. Каб даведацца, выйдзе ў новым годзе дзяўчына замуж ці не, яна брала, не лічачы, на двары паленні і несла іх у хату. Калі колькасць аказвалась цотнай — да дзяўчыны хутка прыедуць сваты, у адваротным выпадку, яшчэ год яна будзе "не ў пары".

Асабліва часта дзяўчаты ў сваёй варажбе звярталіся па "дапамогу" да жывёл — курыцы, сабакі, каня. Напрыклад, некалькі дзяўчат, сабраўшыся ноччу ў адной хаце, клалі на парозе свае пярсцёнкі, пасля чаго прыносілі ў хату курыцу або пеўня і ўважліва сачылі: чый пярсцёнак птушка клюне першым — той дзяўчыне і замуж у наступным годзе першай ісці. Або загадзя раскладвалі на стале розныя прадметы, і ў залежнасці ад таго, які з іх курыца клявала першым, вызначалі свой лёс: вуголле — грошы, багацце; крэйду — будзе шмат адзення; хлеб — заўсёды на стале ежа; соль — горкая доля.

Пры варажбе імкнуліся вызначыць схільнасці, звычкі, узрост і сацыяльнае становішча жаніха. Для гэтага ішлі да калодзежа ці рэчкі і кідалі ў ваду камень. Калі ён падаў ціха, то і муж трапіць ціхі, добры чалавек; калі ж з шумам — не чакай згоды ў сям'і.

Да таго ж, заплюшчыўшы вочы, бралі на двары палена і прыносілі яго ў хату. Гладкае, з тонкай карой палена прадказвала маладога, прыгожага жаніха; з тоўстай карой — багатага; без кары — беднага; крывое — старога ці фізічнымі недахопамі.

**Падрыхтавала**
**Нэлі ПРЫВАЛАВА.**



*На Каляды.* **БелТА.**

**СУСТРАКАЕМ 2000-ны**

**АЙЦЕЦ Уладзіслаў ЗАВАЛЬНЮК**, *ксёндз-магістр, пробашч касцёла святых Сымона і Алены ў Мінску:*

1. Самай сумнай падзеяй XX стагоддзя з'яўляецца, безумоўна, чарнобыльская трагедыя: праз яе мы сталі вядомымі на ўвесь свет. Дарэчы, хутка з Нагасакі ў Беларусь прыедуць прадстаўнікі японскай каталіцкай парафіі, якія падзеляцца з намі доследам вынікаў гэтай жахлівай аварыі. А прыемнай адметнасцю нашага часу з'яўляецца духоўнае адраджэнне: паўсюль аднаўляюцца цэрквы і касцёлы. Радасна і тое, што Беларусь стала незалежнай дзяржавай, і вельмі хацелася б, каб яна заняла дастойнае становішча сярод іншых краін. А такі патэнцыял у нас ёсць. І я лічу, што з Божай дапамогай вельмі многа разумнага можна зрабіць не толькі для сваіх дзяцей і нашчадкаў, але і для такой вялікай сям'і, як Зямля. Аднак для гэтага мы павінны адкрыць сваю душу Богу.

2. Кожны з нас ведае, што яму найбольш перашкаджае ў жыцці і ад чаго яму трэба пазбавіцца. Але ўсе мы павінны памятаць, што ў будучыню трэба захапіць не толькі матэрыяльныя багацці, але і духоўныя. Гістарычная спадчына, культура — гэта наша глеба, нашы карані. А дзякуючы караням, расце кожная раслінка. Аднойчы мы ўжо спрабавалі жыць, калі "старый мир разрушен", а новы яшчэ не пабудаваны... Таму зараз абавязкова павінны перанесці духоўны дар у наступнае тысячагоддзе.

3. Хочацца дапамагаць людзям не толькі духоўна, але і ў іншых напрамках — культуры, адукацыі, аздараўленні. Сёння мы маем пры касцёле хрысціянскае таварыства міласэрнасці, штодзённа 100—120 чалавек атрымліваюць бясплатныя абеды. Плануем разгарнуць усё гэта шырэй, дапамагаць дзецям, састарэлым людзям. Малюся, каб пан Бог дапамог нам ва ўсіх гэтых праектах. Маю таксама асабістыя планы, але пакуль што не магу іх адкрыць. А мару пра тое, каб у нашым касцёле з'явіўся добры арган і каб радыёперадача "Голас душы", якую мы вядзём з касцёла святых Сымона і Алены, мела не 30 хвілін, а гадзіну эфірнага часу.



**З ПЕРШЫХ ВУСНАЎ**

## АДПУШЧЭННЕ ГРАХОЎ ПРАЗ ДАПАМОГУ БЛІЖНЯМУ

24 снежня Рымска-каталіцкая царква распачынае святкаванне юбілею 2000-годдзя хрысціянства. Гэтая падзея будзе адзначана ўсімі храмамі свету, цэнтрам урачыстасцей стане Палесціна, дзе нарадзіўся Ісус Хрыстос, і Рым — месца пакутнай смерці першага рымскага папы — апостала Пятра. Адкрыецца юбілей у Рыме старажытнай цырымоніяй, у ходзе якой панціфік Ян Павел II, пастукаўшы срэбным малатком у бронзавыя дзверы Ватыканскай базілікі сабора святога Пятра і пацалаваўшы іх, першым увойдзе ўнутр сабора. Звычайна гэтыя дзверы закладзены цэглай, што сімвалізуе перашкоду паміж Богам і чалавекам пасля грэхападзення Адама. На працягу юбілейнага года праз святыя дзверы пройдуць і атрымаюць адпушчэнне грахоў многія тысячы паломнікаў, апошнім будзе зноў-такі папа рымскі, пасля чаго дзверы зачыняць і зноў закладуць цэглай да наступнага юбілейнага года.

Рыма-каталіцкая царква Беларусі пачала сваю падрыхтоўку да юбілею з 27 студзеня 1997 года, калі дэкрэтам кардынала Беларусі Казіміра Свёнтака быў створаны Нацыянальны камітэт па святкаванню 2000-годдзя хрысціянства. Як паведаміў на прэс-канферэнцыі кіраўнік камітэта біскуп дапаможны Гродзенскай дыяцэзіі Антоні Дзямянка, святкаванне юбілею распачнецца ў трох катэдральных касцёлах — у Мінску, Гродне і Пінску — святой імшой. На наступны дзень святкаванне адбудзецца ва ўсіх 399 парафіях Беларусі.

Каляндар святочных мерапрыемстваў уключае такія важныя рэлігійныя падзеі, як Марыялагічны Кангрэс (2 ліпеня, Будслаў), экуменічны сімпозіум (22—23 студзеня, Баранавічы), фестываль рэлігійнай песні (10—13 ліпеня, Магілёў), сустрэча моладзі (25—27 жніўня, Гродна), наведванне групай пілігрымаў Святой Зямлі і іншыя.

Антоні Дзямянка нагадаў таксама, што на працягу 2000 года ўсе падрыхтаваныя вернікі змогуць атрымаць юбілейныя адпусты грахоў, калі наведаюць з пілігрымкай Рым, Палесціну або прымуць удзел у літургічным набажэнстве ў партыкулярных касцёлах Беларусі.

Поўны юбілейны адпуст можна таксама атрымаць праз захаванне паста, альбо перадаўшы адпаведную суму грошай на патрэбы ўбогіх, ці праз аказанне шчодрай падтрымкі справам рэлігійнага ці сацыяльнага характару.

Адпушчэнне грахоў чакае і тых, хто наведае братоў, што церпяць нястачу або змагаюцца з цяжкасцямі, — хворых, вязняў, самотных, калекаў.

**Нэлі ПРЫВАЛАВА.**

«Голас Радзімы»

**Галоўны рэдактар**
**Наталля САЛУК**

ЗАСНАВАЛЬНІКІ:

Дзяржаўны камітэт па справах рэлігій і нацыянальнасцей Рэспублікі Беларусь; Беларускае таварыства дружбы і культурнай сувязі з замежнымі краінамі; Беларускае таварыства па сувязях з суайчыннікамі за рубяжом (таварыства "Радзіма").

РЭДАКЦЫЯ:

Намеснік галоўнага рэдактара **Галіна УЛІЦЁНАК.**
Адказны сакратар **Таццяна КУВАРЫНА.**
Рэдактар аддзела — член рэдкалегіі **Яўген ЛЕЦКА.**
Рэдактар аддзела **Алена СПАСЮК.**
Аглядальнікі **Юрась ЛЯШКЕВІЧ, Леанід МАРАКОЎ.**
Спецыяльныя карэспандэнты **Нэлі ПРЫВАЛАВА, Віктар СТАВЕР.**
Рэдактар-перакладчык **Святлана КАРПУЧОК.**
Стыльрэдактар **Ірына КАЗЛОВА.**
Тэхнічны рэдактар **Данута РАКАВЕЦ.**

НАШ АДРАС: 220005, Мінск, пр. Ф. Скарыны, 44.

ТЭЛЕФОНЫ: (+375-17) 213-31-97, 213-32-80, 284-76-56, 213-37-82.

Пазіцыі рэдакцыі і аўтараў, матэрыялы якіх друкуюцца на старонках «Голасу Радзімы», не заўсёды супадаюць.

Рэгістрацыйнае пасведчанне № 81.
Падпісны індэкс у Беларусі 63854.
Тыраж 1 625 экз.
Зак. 2512.
Падпісана да друку 20.12.1999 г. у 12.00.

Газета набрана, звярстана і аддрукавана ў друкарні «Беларускі Дом друку». (220041, г. Мінск, пр. Скарыны, 77).